Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 35(5366)
Чацвер, 21 сакавіка 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Семінары

## Прыярытэт — адукацыйным цэнтрам

***"Асацыіраваныя школы Рэспублікі Беларусь у XXI стагоддзі. Прыярытэты. Праблемы. Перспектывы". Так гучала тэма міжнароднага семінара, які нядаўна прайшоў у сталіцы.***

Ініцыятарам правядзення мерапрыемства такога кшталту быў беларускі бок (Міністэрства адукацыі і Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА), таму ўдзельнікамі семінара сталі, так бы мовіць, віноўнікі – дырэктары беларускіх асацыіраваных школ ЮНЕСКА (іх усяго сем), школ, якія імкнуцца стаць асацыіраванымі (іх чатыры), і, безумоўна, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі (Надзея Аляксееўна Кунец – нацыянальны каардынатар асацыіраваных школ, Мікалай Сцяпанавіч Фяськоў – кіраўнік галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі) і Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА, у прыватнасці яе старшыня Уладзімір Рыгоравіч Шчасны. Што датычыцца гасцей, дык гэта былі нацыянальныя каардынатары праекта "Асацыіраваныя школы ЮНЕСКА" з сямі краін: Польшчы, Германіі, Латвіі, Малдовы, Расіі, Арменіі і Грузіі.

Праграма двухдзённага семінара была досыць насычанай і "рухомай" – яе ўдзельнікі не сядзелі на месцы, а наведвалі сталічныя гімназіі, адны з якіх ужо з'яўляюцца асацыіраванымі школамі, а другія – пакуль толькі саіскальнікі. Усё пачалося "зверху" – афіцыйная сустрэча ўдзельнікаў канферэнцыі з прадстаўнікамі Міністэрства адукацыі нашай краіны, якія, у сваю чаргу, пазнаёмілі прысутных з перспектывамі, праблемамі і прыярытэтамі беларускай агульнай сярэдняй адукацыі на парозе XXI стагоддзя. Вельмі прыемна было чуць, што Беларусь уваходзіць у тройку дзяржаў свету па ўзроўню якасці пачатковай адукацыі, што асацыіраваныя школы з'яўляюцца тым мастом, які аб'ядноўвае і схіляе да супрацоўніцтва, выводзіць нашу школу ў міжнародную адукацыйную прастору. Праблемы. У каго іх няма? У беларускай школы іх дастаткова. І перш за ўсё звязаных з рэформай – пераход на пяцідзёнку, на дзесяцібальную сістэму ацэнкі ведаў, стварэнне новых падручнікаў і г.д. Перспектывы. Заўсёды хочацца верыць у лепшае, таму і перспектывы вымалёўваюцца светлыя – рэформа калі-небудзь скончыцца, якасць адукацыі павысіцца, нагрузка вучняў знізіцца – і ўсе будуць задаволены. Але ж на парадку дня – асацыіраваныя школы. У сваім заключным слове перад пачаткам гарачай працы спадар Фяськоў зазначыў: "Наша сустрэча дапаможа нам пазнаёміцца з формамі работы школ ЮНЕСКА іншых краін, і ў выніку мы зможам вызначыць новыя формы супрацоўніцтва".

Афіцыйнае адкрыццё семінара адбылося ў сёмай сталічнай гімназіі, якая прэтэндуе стаць асацыіраванай.

Яна дастойна "здала экзамен", прадставіўшы ўдзельнікам семінара сваю візітную картку – працу па праграмах, якія прапануюцца ЮНЕСКА ("Экалагічная адукацыя і выхаванне", "За здаровы лад жыцця", "Мовы народаў свету", "Культура Беларусі ў інфраструктуры культуры народаў свету", "Правы дзіцяці" і інш.). Гімназія (вядома, вельмі панарамна, у выглядзе адкрытых урокаў і дэбатных клубаў) паказала сваю спецыфіку дзейнасці, але эфектыўнасць ажыццяўлення такіх праграм кідалася ў вочы адразу – лагічныя і разумныя выкладкі вучняў, зладжаная каардынацыйная дзейнасць настаўнікаў.

У нашай краіне існуе рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя школ ЮНЕСКА", якая за мэту ставіць – фарміраванне спадчыны свету, ахову прыроднай і культурнай спадчыны свету, павагу правоў і свабоды асобы. На семінары ішла гаворка пра тое, што асацыіраваная школа з'яўляецца адукацыйным цэнтрам таго рэгёна, дзе яна знаходзіцца, бо яе дзейнасць прадугледжвае правядзенне адукацыйных і навуковых семінараў, канферэнцый, маладзёжных абменаў, стажыровак, трэнінгаў. Як ужо адзначалася вышэй, у Беларусі толькі сем асацыіраваных школ, калі ў Латвіі, напрыклад, іх 23, Польшчы – 84, Арменіі – 20, у Германіі – больш як 130. І ў той жа Германіі асацыіраваныя школы дзейнічаюць на трох узроўнях – нацыянальным, рэгіянальным і праца непасрэдна на ўзроўні саміх школ. На кожным з пералічаных узроўняў праводзяцца сустрэчы, семінары – настаўнікі і вучні абменьваюцца вопытам. Штогод кожная школа павінна прадставіць вынік сваёй працы – гадавы даклад аб дзейнасці. Існуе цесная ўзаемасувязь паміж усімі ўзроўнямі. Мы пакуль пахваліцца такой адпрацаванай сістэмай не можам. У беларускіх асацыіраваных школах толькі ідзе работа па рэалізацыі праграм і праектаў, якія прапануюцца ЮНЕСКА. Дзіўна і нават парадаксальна, але ў нашых асацыіраваных школах лепш наладжаны сувязі са школамі далёкага замежжа, чым са сваімі. Таму адной з задач семінара было наладзіць супрацоўніцтва не толькі са школамі ЮНЕСКА краін СНД і Заходняй Еўропы, але і з роднымі.

На працягу двух дзён удзельнікі семінара знаёміліся з дзейнасцю пяці школ, якія ўжо не першы год працуюць па праграмах ЮНЕСКА, кожная з якх, як і сёмая гімназія, прадставіла сваю "візітоўку". Мяркую, што Беларусь у сістэме асацыіраваных школ зойме сваё месца сярод іншых краін. І перспектывы ў нас ёсць. Усё ўпраецца, як і заўсёды, у праблемы перш-наперш фінансавыя. Існуе праблема перарэгістрацыі асацыіраваных школ (адна ёю становіцца, другая, наадварот, зноў ператвараецца ў звычайную школу). Неабходна распрацаваць сістэму ўліку асацыіраваных школ, прычым эфектыўную. Але, як гаворыцца, не ўсё адразу. Няма яшчэ і нарматыўна-прававой базы школ ЮНЕСКА, якую таксама трэба распрацаваць і падрыхтаваць. Да таго ж, праграмы і праекты, якія прапануе ЮНЕСКА, павінны функцыянаваць як частка адукацыйнай палітыкі краіны. І ў гэтым выпадку арганізацыі ЮНЕСКА, у сваю чаргу, павінны працаваць з міністэрствамі адукацыі. Такія рэчы не вырашаюцца ў адначассе. Зразумела, што працы яшчэ хопіць усім, а пакуль зроблены толькі першыя крокі, і наперад, а не назад.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**



НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі семінара: Надзея Аляксееўна Кунец, Мікалай Сцяпанавіч Фяськоў, Уладзімір Рыгоравіч Шчасны і Кацярына Аляксандраўна Ярмоліна (адказны сакратар камісіі па справах ЮНЕСКА); падчас адкрытага ўрока па польскай мове.

**Фота Ю.БОНДАРАВА.**

Навіны

## Ствараецца служба падтрымкі студэнтаў

***У Полацкім дзяржаўным універсітэце прайшоў семінар па стварэнні службы падтрымкі студэнтаў у рамках рэалізацыі праграмы еўрапейскай супольнасці "Тэмпус". На семінары прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх факультэтаў, розныя службы універсітэта, у тым ліку і студэнцкі актыў.***

У рамках адукацыйнай праграмы "Тэмпус" супрацоўнікі Полацкага дзяржаўнага універсітэта пабывалі ў Вышэйшай тэхналагічнай школе нямецкага горада Мангейма, шведскім Каралеўскім тэхналагічным інстытуце, італьянскім Генуэзскім універсітэце.

На семінары ўдзельнікі паездак расказалі пра асаблівасці работы еўрапейскіх ВНУ. Прагучалі прапановы аб неабходнасці распрацоўкі спецыяльных праграм па рабоце з абітурыентамі і студэнтамі-першакурснікамі з мэтай азнаямлення са спецыяльнасцямі, якія прапануюцца ва універсітэце, і асаблівасцямі выбранай прафесіі. Была ўнесена прапанова аб уключэнні ў вучэбную праграму па некаторых спецыяльнасцях заняткаў па італьянскай мове, што дало б магчымасць студэнтам пасля заканчэння прадоўжыць вучобу ў аспірантуры італьянскага Генуэзскага універсітэта.

Вопыт работы еўрапейскіх навучальных устаноў у Полацкім дзяржаўным універсітэце стараюцца выкарыстоўваць для больш высокага ўзроўню падрыхтоўкі студэнтаў.

Старшыня прафкама студэнтаў Сяргей Фамін, выступленнем якога закончыўся семінар, адзначыў, што еўрапейскія студэнты да сваёй вучобы і свайго лёсу ставяцца больш сур'ёзна, чым нашы маладыя людзі.

## Адбылася прэзентацыя новай кафедры

***У Полацкім дзяржаўным універсітэце адбылася прэзентацыя кафедры фінансаў, створанай на базе фінансава-эканамічнага факультэта ў снежні мінулага года.***

Фінансава-эканамічны факультэт быў створаны ў 1992 годзе. На сённяшні дзень на факультэце займаюцца каля 600 студэнтаў на дзённай форме навучання і больш чым 700 – на завочнай. Падрыхтоўка спецыялістаў ідзе па чатырох спецыяльнасцях. Тут таксама можна атрымаць ступень бакалаўра і магістра.

Пераход на новую шматузроўневую праграму навучання выклікаў пэўныя структурныя змены на самім факультэце. Для больш якаснай падрыхтоўкі студэнтаў, асабліва па спецыяльнасці "Фінансы і крэдыт", да чатырох кафедр універсітэта была дабаўлена яшчэ адна – кафедра фінансаў.

Загадчыца новай кафедры, кандыдат эканамічных навук Валянціна Багатырова – у мінулым выпускніца фінансава-эканамічнага факультэта універсітэта. За два гады яна падрыхтавала і з бляскам абараніла дысертацыю. Па словах дэкана факультэта Наталлі Беларусавай, новая загадчыца кафедры – самая маладая ва універсітэце.

На сённяшні дзень на кафедры рыхтуюць спецыялістаў па дзвюх спецыялізацыях: "Фінансы" і "Страхаванне". Калектыў кафедры складаецца з сямі выкладчыкаў. З гэтага года плануецца ажыццяўляць набор слухачоў, якія маюць вышэйшую адукацыю, на факультэт павышэння кваліфікацыі на спецыяльнасць "Фінансы".

Напрыканцы года прынята падводзіць вынікі работы за мінулы год. У Полацкім дзяржаўным універсітэце вырашылі не парушаць гэтую традыцыю. На пачатку гэтага года былі падведзены вынікі дзейнасці адной з вядучых ВНУ у Полацкім рэгіёне.

Рэктар Полацкага дзяржаўнага універсітэта Эрнст Бабенка адзначыў павелічэнне колькасці студэнтаў, якое, на яго думку, адбываецца за кошт платнай формы навучання. На сённяшні дзень у сценах ВНУ вучацца 5856 студэнтаў, з іх каля 4 тысяч – на дзённым аддзяленні.

Сёлета папоўніўся маладымі спецыялістамі і выкладчыцкі састаў. 59 чалавек – выпускнікі ПДУ, 18 скончылі іншыя ВНУ краіны. Універсітэт стаў месцам правядзення навуковых канферэнцый, у тым ліку і міжнародных. Эрнст Бабенка таксама звярнуў увагу на поспехі ў навуковай рабоце. У гэтым годзе ва універсітэце было абаронена адзінаццаць кандыдацкіх і адна доктарская дысертацыі. (Аб'ём фінансавання навуковых даследаванняў склаў 958 мільёнаў рублёў, 30 працэнтаў з якіх паступілі з бюджэту.) Выдадзена дваццаць патэнтаў на ўкараненне вынаходніцтваў. Студэнты і выкладчыкі універсітэта прымаюць удзел у міжнародных праектах, супрацоўнічаюць з ВНУ Германіі, Швецыі, Польшчы, Расіі, ЗША.

Паводле слоў рэктара, універсітэт праводзіць вялікую работу па ўкараненні інфармацыйных тэхналогій. За мінулы год было набыта шэсцьдзесят новых камп'ютэраў, а ў гэтым плануецца стварэнне Інтэрнэт-цэнтра. Ёсць дасягненні і ў выхаваўчым працэсе, у прыватнасці універсітэцкая каманда выйшла ў Вышэйшую лігу Беларускага КВЗ. На савеце універсітэта былі вызначаны далейшыя перспектывы работы універсітэта на гэты год.

## Прааналізавана работа дзіцячых прытулкаў

***Нядаўна на базе Наваполацкага дзіцячага сацыяльнага прытулка прайшоў абласны семінар для дырэктараў падобных устаноў "Аб удасканаленні работы сацыяльных прытулкаў па рэабілітацыі дзяцей, якія апынуліся ў экстрэмальнай жыццёвай сітуацыі".***

Арганізатарам семінара выступіла ўпраўленне адукацыі Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта. Месца правядзення было выбрана невыпадкова. Па словах першага намесніка начальніка ўпраўлення адукацыі А.І.Сягодніка, у навапалачан ёсць чаму павучыцца. У сваім выступленні ён расказаў пра сістэму адукацыі Наваполацка, адзначыў яе цеснае ўзаемадзеянне з гарадскімі ўладамі.

Тэмай семінара стала работа дзіцячых сацыяльных прытулкаў, якіх у Віцебскай вобласці каля дваццаці. Падобныя ўстановы існуюць не так даўно, таму асноўная задача – работа з кадрамі, падрыхтоўка кіраўнікоў, а таксама абмен вопытам. Ім якраз і падзяліліся гаспадары: дырэктар Наваполацкага сацыяльнага прытулка Л.В.Казлова, метадыст па абароне дзяцінства аддзела адукацыі Наваполацкага гарвыканкама С.В.Юшчанка. Свае рэкамендацыі па рабоце з дзецьмі, якія трапілі ў экстрэмальную сітуацыю, дала псіхолаг Віцебскага інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў М.Н.Кузняцова.

Наваполацкі дзіцячы сацыяльны прытулак быў створаны летам мінулага года. Нягледзячы на малады ўзрост, яго работа ўжо прыцягнула ўвагу абласнога ўпраўлення адукацыі. Т.В.Броўчанка, вядучы спецыяліст упраўлення адукацыі, адзначыла, што прытулак адпавядае ўсім патрабаванням, якія прад'яўляюцца да падобных устаноў.

Галоўная задача сацыяльнага прытулка – дапамога ў рэабілітацыі дзяцей, а таксама работа з праблемнымі сем'ямі з мэтай вяртання дзіцяці да бацькоў. За сем месяцаў работы Наваполацкага прытулка з 38 дзяцей 6 вярнуліся ў сем'і, 5 афармлены ў інтэрнат, 2 пайшлі вучыцца ў ПТВ горада.

У канцы семінара быў праведзены круглы стол, дзе дырэктары сацыяльных прытулкаў вобласці змаглі абмеркаваць важнейшыя праблемы і задаць пытанні.

**Вольга МІНЯНКОВА.**

## "Зялёная хваля-2002", альбо Строга трымайся дарожных правілаў

***Не сакрэт, што ў многіх школах і іншых навучальных установах нашай краіны праводзіцца канкрэтная і мэтанакіраваная работа па прафілактыцы дарожнага траўматызму і гібелі дзяцей.***

Нядаўна ў гімназіі № 7 сталіцы адбыліся спаборніцтвы юных інспектараў дарожнага руху "Зялёная хваля-2002", у якіх прынялі ўдзел каманды з 14 школ Партызанскага раёна. У кожнай камандзе – па 8 чалавек: 4 дзяўчынкі і 4 хлопчыкі. Узрост яе ўдзельнікаў – 11-15 гадоў.

Перад юнымі інспектарамі дарожнага руху выступіў начальнік аддзела ДАІ Партызанскага РУУС Мінска маёр міліцыі Сяргей Емяльянаў. Ён напомніў умовы спаборніцтваў і пажадаў поспехаў іх удзельнікам.

І вось спаборніцтвы пачаліся. Яны ўключалі такія этапы, як тэарэтычныя веды вучнямі правіл дарожнага руху; аказанне першай дапамогі пацярпелым у дарожна-транспартным здарэнні; разборка і зборка веласіпеда; фігурнае катанне на веласіпедзе і мастацкі конкурс.

Школьнікі даволі ўпэўнена адказвалі на пытанні па правілах дарожнага руху, расказвалі як лепш аказаць першую дапамогу, і трэба было бачыць, як старанна дзяўчынкі разбіралі, а хлопчыкі збіралі веласіпед.

Але асаблівую ўвагу прысутных прыцягнула спаборніцтва "Фігурнае катанне на веласіпедзе". Яго ўдзельнікі штурмавалі трасу, якая складалася з даволі складаных элементаў: "Габарытныя вароты", "Пні", "Калідор з кароткіх дошак", "Змейка з неаднолькава расстаўленымі кеглямі", "Слалам" і інш.

Вельмі цікавым быў і заключны этап – "Мастацкі конкурс". Каманда кожнай школы выступіла са сваёй праграмай, у якой была паказана дзейнасць атрадаў ЮІР па прапагандзе ў гульнявай форме правіл дарожнага руху. Дзеці спявалі, танцавалі, чыталі ў паэтычнай форме "правілы, якія трэба знаць усім на белым свеце". Мне асабліва запомнілася наступнае:

*"Трымайся дарожных правілаў строга.*
*Не спяшайся, як на пажар.*
*І помні: транспарту – дарога,*
*А пешаходам – тратуар".*

Вынікі падвялі старшы інспектар аддзела ДАІ Партызанскага РУУС сталіцы, капітан міліцыі Анатоль Чаленка і інспектар па прафілактыцы дзіцячага дарожнага траўматызму Мінскага гарадскога аддзялення АТ "Беларускі фонд бяспекі дарожнага руху" Людміла Міскевіч.

Першае месца ў спаборніцтвах "Зялёная хваля-2002" заняла каманда сярэдняй школы № 69. Яна была ўзнагароджана граматай і калектыўнай паездкай у Брэсцкую крэпасць-герой. А кожны яе ўдзельнік атрымаў каштоўны падарунак.

Другое месца было прысуджана камандзе школы № 182, якая атрымала ў якасці калектыўнага прыза – відэамагнітафон, а каманда школы № 86 сталіцы – за трэцяе месца – фотаапарат.

Усе каманды атрымалі каштоўныя і салодкія прызы – тарты, што, безумоўна, выклікала асаблівае ажыўленне.

У красавіку спаборніцтвы юных інспектараў руху адбудуцца на першынство горада, а там – і рэспубліканскія. Цікава, а якая каманда стане пераможцам заключнага турніра "Зялёная хваля-2002"?

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

Прафесар Аляксандр КАРАТКЕВІЧ:

## "Праца нараджае цікавасць да жыцця"

***80-гадовы юбілей прафесара Аляксандра Цімафеевіча Караткевіча амаль супаў з 80-годдзем Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, які будзе адзначацца ўвосень. І на фоне вялікага шляху вышэйшай навучальнай установы яшчэ больш выразным падаецца жыццё чалавека, які 15 гадоў быў яе рэктарам.***

Па-сутнасці, яго асабістая гісторыя ёсць адлюстраванне агульнай гісторыі яго народа. Усе падзеі, што адбываліся на Беларусі і да ўтварэння СССР, і ў савецкую эпоху, і ў постсавецкі час, так ці інакш адбіваліся і на яго жыцці, стваралі яму біяграфію.

Бацька будучага прафесара быў чырвонаармейцам, вярнуўся з вайны з куляй у грудзях і памёр маладым. Маці адна падымала пецярых дзяцей. І Аляксандр Цімафеевіч успамінае, што вырас у тыповай беларускай сям'і, якая да рэвалюцыі была батрацкай, а пасля – беднай сялянскай...

Ён настаўнічаў, калі пачалася вайна. "Вядома ж, ніхто з нас, падпольшчыкаў і партызан, не марыў ваяваць. Але калі мы ваявалі, дык нават не думалі, што выжывем", – гаворыць Аляксандр Цімафеевіч. Вызваленне ён сустракаў памочнікам камісара партызанскай брыгады "За Савецкую Беларусь".

Потым тэма Вялікай Айчыннай вайны стала адной з важнейшых у навуковай дзейнасці прафесара гісторыі Аляксандра Караткевіча. Ён дагэтуль шмат піша аб той вайне.

– Сапраўды, тут вельмі многа нераспрацаваных тэм. Раней мы ўсё асвятлялі аднабока, прыгадвалі толькі гераічнае. А трэба было б разгледзець усе аспекты жыцця народа на акупаваных тэрыторыях, як і праявы партызанскай вайны... Многія лічаць, што партызанскі рух – нешта адмыслова беларускае. Вядома ж, касцяк складалі мы – беларуская моладзь і акружэнцы, – але ж ва ўсіх атрадах былі і рускія, татары, яўрэі, казахі. З'ява гэтая – інтэрнацыянальная.

Аляксандр Цімафеевіч узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі. Двойчы паранены ў баях і вылечаны пасля ў лясных шпіталях, ён ведае партызанскі рух не па чутках і лічыць, што на гэтую тэму трэба гаварыць і пісаць. Шануе Васіля Быкава – за тое, што пісьменнік усебакова бачыць сутнасць той страшнай вайны.

Схільнасць да гістарычнага аналізу прывяла Аляксандра Караткевіча на гістарычны факультэт БДУ (хаця да вайны паступаў на філфак Аршанскага настаўніцкага інстытута). І цікавая навука захапіла яго на ўсё жыццё. Нават займаючы вельмі высокія пасады ў камсамольскіх і партыйных органах, ён ніколі не пакідаў навуковай і выкладчыцкай працы.

– На ўсіх этапах свайго развіцця айчынная сістэма адукацыі перажывала тыя падзеі, што адбываліся ў дзяржаве, – гаворыць Аляксандр Цімафеевіч. – Сёння многія хацелі б негатыўна ацаніць нашу мінуласць. Але мяне дзівіць, калі чалавек насіў партыйны білет, пісаў кнігі, абараняў дысертацыі, абапіраючыся на марксісцка-ленінскую ідэалогію, а цяпер усё гэта пляжыць. Ёсць дагматычны падыход, які я і тады асуджаў, а зараз і пагатоў, – з вышыні гісторыі ўсё бачыцца лепш. Але такіх метамарфоз я зразумець не магу. Непраўдападобна гэта і няшчыра...

З 1978 да 1993 года Аляксандр Цімафеевіч Караткевіч працаваў рэктарам Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. І тая вялікая праца, што была зроблена ў ВНУ з яго ўдзелам і пад яго кіраўніцтвам, стала базай для прыняцця рашэння аб пераўтварэнні інстытута ва універсітэт.



Цяпер Аляксандр Цімафеевіч Караткевіч – прафесар кафедры славянскай гісторыі і метадалогіі гісторыі і саветнік рэктара БДПУ. Ён кіруе навуковым калектывам, які аналізуе рэформу школы і распрацоўвае рэкамендацыі па ўдасканаленні прафесійнай падрыхтоўкі будучых настаўнікаў для навукова-метадычнага і вучонага саветаў універсітэта.

– Настаўнік павінен мець добрую прадметную падрыхтоўку і абавязкова – шырокую эрудыцыю, – сцвярджае Аляксандр Цімафеевіч, – бо вучні – заўсёды вельмі назіральныя і заўважаюць у настаўніку ўсё. Таму важна яшчэ, каб было прызванне да педагагічнай працы. Не любіш дзяцей, не хочаш іх чаму-небудзь навучыць – не ідзі ў школу!

Аляксандр Цімафеевіч Караткевіч стаў добрым настаўнікам не толькі для сваіх вучняў і студэнтаў, але і для ўласных дзяцей. Яго сын Яўген – цяпер прафесар, доктар медыцынскіх навук, член дзвюх акадэмій. Дачка Людміла – дацэнт на кафедры гісторыі Беларусі БДУ. Жонка Караткевіча, Марыя Іванаўна, дарэчы, таксама гісторык, – заслужаная настаўніца, былая партызанка. Яны разам ужо больш за паўстагоддзя.

Сцены дамашняга кабінета Аляксандра Цімафеевіча скрозь застаўлены кніжнымі шафамі. Ён любіць перачытваць класіку, але і не прапускае ніводнай навінкі гістарычных і літаратурна-мастацкіх часопісаў. Універсітэт выпісвае на бібліятэку ўсе тоўстыя беларускія і расійскія выданні. А "Настаўніцкая газета" прыходзіць да прафесара проста ў працоўны кабінет.

Рэцэптам даўгалецця Аляксандр Цімафеевіч лічыць жыццёвую актыўнасць:

– Калі б я не працаваў, дык і не ведаю, як бы жыў. Праца дысцыплінуе чалавека і нараджае цікавасць да жыцця. У мяне адна праца заканчваецца – другая з'яўляецца. І ўсё хочацца зрабіць. Я па прыродзе сваёй чалавек не кансерватыўны – хутчэй, прагматычна-перспектыўнага складу. Гэта мне і дапамагае. А галоўнае ў жыцці – каб цябе паважалі, дзеля гэтага трэба аддавацца жыццю не толькі фізічна, але і ўсёй душой, усім розумам. Маё шчасце ў тым, што, куды я ні паеду – у любым раёне, у любой школе, – сустракаю сваіх выхаванцаў і паплечнікаў. Я шчаслівы, што ў мяне шмат сяброў, якія мяне не забываюць. Жыццё – яно цудоўнае і на дзевятым дзесятку.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

Сямейны клуб "Настаўніцкай газеты"

СЕМ'Я

# "Не хачу жыць, як мае бацькі",

## альбо Споведзь сучаснага падлетка

"Я сваю маму штодзённа падманваю. Яна, калі даведваецца праўду, пачынае дапытвацца, чаму я так раблю. А я кожны дзень бачу, што і яна хлусіць. Майго малодшага брата лягчэй падмануць, і яна яму "лапшу на вушы вешае". І мяне таксама спрабуе падмануць, але я пра гэта ёй кажу, і яна злуецца, крычыць на мяне. Вось, напрыклад, папросіш маму растлумачыць задачу, а яна пачынае крычаць, што я нічога не вучу. Я дома "нуль без палачкі". Мне бацька так і гаворыць: "Ты павінен ведаць заўсёды, што ты дурань у параўнанні з дарослымі. Таму лепш маўчы".

Бацькі ўвесь час гавораць, што я дрэнна вучуся. Я, напэўна, мог бы вучыцца і лепш, але лянуюся, дый нецікава. Кожны дзень я сяджу над урокамі па тры гадзіны, болей не вытрымліваю. Яшчэ бацькі гавораць, што я нецікавы чалавек, таму што мала чытаю. А яны самі не ўспрымаюць музыку, якая мне падабаецца. І калі я ўключаю магнітафон, маці зноў падымае гвалт.

Наконт дапамогі ў хатніх справах. Я не супраць: часам хаджу ў краму за хлебам, малаком. Але калі кожны дзень хадзіць – надакучвае. Учора, напрыклад, мяне паслалі за малаком у шэсць гадзін, а я вярнуўся ў дзесяць. Ці ж я вінаваты, што мы з сябрам дамовіліся яшчэ раней аб сустрэчы? І зноў маці на мяне крычала.

Потым яшчэ з-за тэлефона. Я магу гаварыць па тэлефону амаль гадзіну, а бацькі злуюцца. Я ім кажу: "Не хочаце, каб я па тэлефону гаварыў – адпусціце гуляць". А яны: "Ты і так занадта шмат гуляеш".

Маці ўвогуле гаворыць, што каб я есці не хацеў, дык і дома б не паяўляўся. Ім здаецца, што я амаль не раблю ўрокаў, а я, наадварот, стараюся зрабіць урокі да іх вяртання з працы і пайсці з дому. Нецікава дома з бацькамі. Яны прыходзяць з працы стомленыя, разлабаваныя, і пагаварыць з імі няма пра што. Ды і яны не хочуць са мной ні пра што іншае, як пра вучобу ў школе, гаварыць. Паміж сабою бацькі таксама толькі аб працы размаўляюць ды пра заробкі.

Мне здаецца, каб была ў мяне рэальная магчымасць неяк зарабляць грошы, быць матэрыяльна незалежным, я б з бацькамі не жыў. Я ведаю хлопцаў, якія паступілі ў прафтэхвучылішча спецыяльна ў другі горад, каб там жыць у інтэрнаце, яны мне тлумачылі, што без бацькоў адчуваюць сябе больш свабоднымі і незалежнымі.

Потым – здараюцца такія моманты, калі хочацца проста адпачыць ад бацькоўскай апекі, штодзённых заўваг, крыкаў, папрокаў і абвінавачанняў у тым, чаго ты не зрабіў на самай справе. А як я радуюся, калі яны куды-небудзь ад'язджаюць, напрыклад, на лецішча...

Не ведаю, магчыма, таму, што я пакутую ад адносін да мяне бацькоў, мне здаецца, што сваім дзецям я буду даваць больш свабоды і больш прыслухоўвацца да іх інтарэсаў. Вось, напрыклад, калі пачынаеш гаварыць з маімі бацькамі, яны даказваюць, што няма ў жыцці толькі дрэннага, толькі чорнага – усё больш складана...

А тым часам самі імкнуцца нас уціснуць у самыя прымітыўныя рамкі: гэта добра, а гэта дрэнна, запомні назаўсёды. Я і сам ведаю, што ёсць што. Я і сам магу сказаць, што хацеў бы у сабе перамяніць. Напрыклад, не маніць бацькам, ужо надакучыла. Ідзеш гуляць, а напрыдумваеш усяго-ўсялякага. Потым – лянота, я не ведаю, як мне ад яе пазбавіцца. І сам сябе пачынаю апраўдваць. Напрыклад, затрачваць шэсць гадзін штодзённа на ўрокі, выкананне хатніх заданняў – хіба гэта не здзек для нас, 15-гадовых падлеткаў, калі вакол столькі цікавага: музыка, стасункі з сябрамі, сустрэчы з дзяўчынай, якая падабаецца.

Наперадзе ў мяне дарослае жыццё: набыццё нейкай прафесіі, праца, стварэнне сям'і. Але мне так не хочацца жыць, як мае бацькі, станавіцца такім жа: стомленым, раздражнёным, знерваваным. І ўся цікавасць у іх – тэлевізар. Разумею, што маё жыццё залежыць ад мяне самога, ад таго, ці змагу я сам зрабіць яго лепшым. Ці хопіць у мяне сілы волі пераадолець сябе, сваю ляноту, неарганізаванасць, часам непаважлівыя адносіны да людзей?"

Гэтую шчырую, трывожную споведзь знаёмага мне падлетка я запісала, аб'яднаўшы ў адну некалькі размоў з ім.

У ёй – відавочна непрыгляднае ў сваёй мітусні, бяздушнасці, абыякавасці ў адносінах да родных дзяцей жыццё дарослых, нашых сучасных бацькоў.

А потым здзіўляемся, адкуль бяруцца праблемныя падлеткі...

**Запісала Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

Здароўе

# Рак з-за нямытых рук? Магчыма і такое

***Мыць рукі ці не мыць? Сёння так пытанне ўжо, канешне, не ставіцца. Гэта ў сярэднявеччы ўсур'ёз лічылі, што бруд на скуры чалавека з'яўляецца своеасаблівай заслонай ад значных непрыемнасцей і сур'ёзных хвароб. Зараз любы дашкольнік ужо ведае, што "чысціня - залог здароўя".***

Вучоныя сцвярджаюць, што з-за нямытых рук можна атрымаць не толькі банальнае харчовае атручанне, але і гепатыт, халеру і нават грып і вострыя рэспіраторна-вірусныя інфекцыі, якімі можна заразіцца пры поціску рукі ў момант сустрэчы альбо пры карыстанні агульнымі прадметамі, тэлефоннай трубкай, да прыкладу. І бактэрыі хелікабактэры, якія з'яўляюцца самай частай прычынай язвы страўніка і інфіцыраванасць якімі павышае рызыку развіцця рака страўніка на 60 працэнтаў, таксама перадаюцца праз брудныя рукі.

***Вось што раіць Амерыканскае таварыства мікрабіёлагаў:***

***Заўсёды мыйце рукі перад тым, як вы будзеце:***

*- гатаваць альбо прымаць ежу,*

*- апрацоўваць раны альбо драпіны,*

*- здымаць кантактныя лінзы*

***і пасля таго як вы:***

*- былі ў туалеце,*

*- бралі сырыя прадукты (асабліва мяса),*

*- мянялі падгузнікі маламу,*

*- прыкрывалі рот пры чыханні альбо кашлі,*

*- гладзілі свойскіх жывёл (вучоныя лічаць, што хелікабактэрамі можна заразіцца ад кошак),*

*- выносілі смецце,*

*- даглядалі за хворым.*

Як бачым, амерыканцы - людзі скрупулёзныя. Яны распісалі амаль усе жыццёвыя сітуацыі, пасля якіх нам трэба хапацца за мыла і ваду.

Але ведаць, **калі** трэба мыць рукі - гэта паўсправы. Не менш важна яшчэ і **як**.

Лепш - звычайным туалетным мылам (калі будзеце занадта захапляцца антыбактэрыяльным, могуць з'явіцца бактэрыі, устойлівыя да антыбіётыкаў). Шараваць рукі трэба не менш за 10 секунд, прычым лічыць трэба не 1, 2, 3, 4 ... а 101, 102, 103, 104... Абавязкова - ачысціць запясці і пазногці.

Тое, што вы прачытаеце далей, большасці можа падацца нават і смешным. А ўсё таму, што гэта для нас вельмі ўжо нязвыкла. Вось як трэба паводзіць сябе, на думку амерыканцаў, у грамадскім туалеце:

Трэба ўзяць аднаразовы папяровы ручнік і палажыць яго побач з ракавінай. Памыць з мылам рукі і з дапамогай гэтага ручніка закруціць кран. Другім ручніком высушыць рукі і, зноў жа, прыкрываючы ім рукі, адчыніць дзверы, стараючыся не дакранацца чыстымі рукамі да дзвярной ручкі. Канешне, у нас гэтыя рэкамендацыі прымяніць даволі складана: папяровыя ручнікі ў нашых туалетах не вісяць. Але, прачытаўшы гэтыя радкі, будзем хаця б ведаць, як трэба было б дзейнічаць. Дарэчы, за мяжой зараз у большасці выпадкаў не трэба адкручваць кран рукой, каб палілася вада, - дастаткова націснуць на кнопку. Вада аўтаматычна адключаецца праз 10 секунд. Не паспеў памыць рукі - націскай яшчэ раз. Калі ж рукі вымыты - ужо няма патрэбы ні да чаго дакранацца.

Дарэчы, хоць у ЗША сродкаў асабістай гігіены на рынку прадаецца больш, чым ва ўсіх іншых краінах свету, але калі Амерыканскае таварыства мікрабіёлагаў стала праводзіць нацыянальную акцыю "Чыстыя рукі", высветлілася, што амерыканцы - не такія ўжо і чысцёхі. Хоць, што датычыцца нас, дык і мы, як мне здаецца, нічым пахваліцца тут асабліва не можам. Самы апошні прыклад. Нядаўна я прысутнічала на семінары, прысвечаным здароваму ладу жыцця. Вельмі шмат слоў на ім было сказана і аб асабістай гігіене. Пасля семінара быў абед. І ніводзін (!) з яго ўдзельнікаў не ўспомніў, што трэба вымыць рукі перад ядой...

**Святлана СУБОЦІНА.**



# Сыны

Артыкул называўся "Падкідыш". Гэтае жорсткае, калючае слова неяк не падыходзіла да змешчанай тут жа фатаграфіі малога. Худзенькае хлапчанё з цікавасцю глядзела ў аб'ектыў камеры, прыціскаючы да сябе цацку...

Тую публікацыю ў газеце "Знамя юности" ад 28 красавіка 1989 года Аляксандр Артамонаў перачытаў не адзін дзесятак разоў – занадта жахлівай падалася гісторыя. Як можа маці кінуць на пероне вакзала родную крывінку? Немаўля, загорнутае ў скрутак, знайшлі на пероне Полацкага вакзала халоднай кастрычніцкай ноччу. На выгляд яму было тры месяцы. Сёння ўжо не даведаешся, хто стаў збаўцелем малога. Па адной версіі – машыніст, па другой – міліцыянер. Але менавіта ў гонар таго чалавека хлопчыка назвалі Германам. Імя па бацьку – Сцяпанавіч – ён атрымаў ад міхалкоўскага дзядзькі Сцёпы. Прозвішча – па восеньскаму месяцу. І ўступіў Герман Сцяпанавіч Акцябрскі ў сваё новае жыццё. Толькі не было ўжо ў ім месца ні тату, ні маме. А цяпло роднага ачага замяніў спачатку дом немаўляці, а потым Віцебскі дзіцячы дом.

Аляксандр Артамонаў ведаў, што такое не мець бацькоў. У пятнаццаць гадоў сам страціў бацьку. Маці з раніць да вечара прападала на працы, каб пракарміць Сашку і малодшую сястрычку Марынку. Але праз шэсць гадоў не стала і яе.

У той час Аляксандр працаваў на заводзе ў родным Дзяржынску Ніжагародскай вобласці. Для Марыны брат быў за бацьку і маці. Калі яна ўжо вучылася ў тэхнікуме, хадзіў да выкладчыкаў даведацца пра яе поспехі. Вядома, па дому рабілі ўсё разам.

Калі Аляксандра Артамонава запрасілі папрацаваць на Поўначы (сястра ўжо выйшла замуж, нарадзіла дачку Машу), паехаў з задавальненнем: хацелася паглядзець на нябачаны раней край, ды і з людзьмі Аляксандр сыходзіўся лёгка, з дзецьмі – асабліва. Так што старшы піянерважаты Артамонаў у школе пасёлка Энтузіястаў, што ў Якуціі, у 45 км ад мора Лапцевых, прыйшоўся даспадобы.

Але жыццё крута перавярнуў той артыкул у газеце. (Артамонаў паўзарплаты траціў на падпіску ўсемагчымых выданняў. Вельмі падабаліся беларускія.) Гісторыя пяцігадовага хлапчука прымусіла ўзяць ручку.

У сваім лісце аўтару публікацыі прэзідэнту Беларускага дзіцячага фонду Уладзіміру Ліпскаму ён прасіў паведаміць адрас дзіцячага дома, расказаў пра свой лёс і жаданне... усынавіць Геру. Кожны дзень потым хадзіў да паштовай скрынкі, але пісьма з Беларусі не было. Уладзімір Сцяпанавіч у тыя дні атрымаў дзесяткі водгукаў: з Камчаткі, Курыл, Далёкага Усходу, Казахстана... Магчыма, у патоку пасланняў згубіўся непрыкметны канверт з адрасам "Пасёлак Энтузіястаў.." Толькі пасля другой спробы Аляксандр атрымаў жаданы адказ. І пайшлі ў беларускі горад лісты, пасылкі з дзіцячымі кнігамі, адзеннем, цацкамі, прысмакамі...

Амаль год доўжылася перапіска з выхавальнікамі дзіцячага дома. Нярэдка да іх пасланняў прыкладваў руку і Герка. Тады на аркушыках, спісаных няроўным почыркам дырэктара дзіцячага дома Марыі Чэгінай або лагапеда Ірыны Раманенка, паяўляліся рознакаляровыя кружочкі, квадрацікі, нязграбныя чалавечкі...

Перш чым ехаць у Віцебск, Аляксандр пагаварыў з сястрой. Марына схапілася за галаву: "Ты што! Трыццаць адзін год мужыку, жаніўся б хоць спачатку, а дзяцей і сваіх хопіць!.." Артамонаў доўга не пераконваў, дастаў здымак, дзе сімпатычнае хлапчанё гуляла з дзецьмі ў доктара, і сказаў: "Гэта Герка, і ён мяне чакае". Сястра ўсё зразумела.

Да віцебскай вуліцы Свідзенскага ад вакзала Аляксандр дабіраўся на таксі. Двухпавярховы дзіцячы дом згубіўся сярод прысадзістых хат прыватнага сектара. Калі выйшаў з машыны і стаў выгружаць чамаданы з падарункамі, выхавальнікі, якія стаялі на вуліцы, зразумелі: прыехалі да Геры. У тое, што за Герам, не верылася. А можа баяліся сурочыць? Дагэтуль дзяцей тут не ўсынаўлялі. Палохала спецыфіка ўстановы – для дзяцей з замаруджаным псіхічным развіццём. Ды і будучага бацьку ўяўлялі вышэйшым і платнейшым. Пабеглі па Германа.

...Яны адразу ўбачылі адзін аднаго. Аляксандр у думках уяўляў гэтую сустрэчу тысячы разоў, ведаў, што скажа хлапчуку, у якога, нарэшце, нехта паявіўся ў гэтым несправядлівым свеце. Але словы заселі ў горле. Пакуль выхавальніца на хаду папраўляла на Геры кепку, падцягвала шорты, Аляксандр чамусьці глядзеў на простыя карычневыя сандалі, якія былі ў паловы дзяцей, што гулялі ў садзе. Малы ішоў па асфальтаванай дарожцы, і кожны яго крок суправаджаўся пабразгваннем расшпіленай засцежкі. Аляксандр прысеў на кукішкі, каб паправіць хлясцік, і пачуў ля самага вуха: "Татка, ты па мяне прыехаў?" Па шчацэ дарослага чалавека пацякла сляза.

Два месяцы правёў Аляксандр у Віцебску, уладкоўваючы пытанні, звязаныя з усынаўленнем. Складанасці ўзнікалі на кожным кроку. Не было яшчэ ў краіне падобнага выпадку, каб малады, нежанаты мужчына звяртаўся ў дзіцячы дом за дзіцем. Дзякуй, дапамог усё той жа Уладзімір Ліпскі.

Пакуль афармлялі дакументы, Аляксандр з раніцы да вечара быў з Герам. Пераначуе ў гасцініцы, а ледзь развіднее – спяшаецца да сына. Хадзіў з ім гуляць, у час абеду садзіўся з малымі на маленькае крэсла за дзіцячы стол...



– Але есці ў тыя дні не хацелася, – прызнаецца Аляксандр Віктаравіч. – Столькі цяжкіх лёсаў было вакол. І пастаяннае чаканне таты і мамы. Туга па роднаму дому. Няважна якому – багатаму ці беднаму. Галоўнае – роднаму.

А побач увесь час круціўся Геркаў сябар Сяргей, худзенькі, блакітнавокі. Незнаёмага вусатага дзядзьку, які нечакана стаў такім родным, таксама татам называў. Калі Артамонаву ўручылі дакументы на Геру, ён сказаў дырэктару дзіцячага дома, што Сяргейку таксама б усынавіў... "Ты з адным спачатку справіся", – уздыхнула жанчына.

Праводзілі Геру Артамонава з бацькам усім дзетдомам. Падарылі хлопчыку веласіпед. Абдымаючы Сяргея, Аляксандр паабяцаў, што наступным летам абавязкова возьме яго да сябе ў госці.

У цягніку Гера не адыходзіў ад акна. З цікавасцю глядзеў на пералескі, рэчкі, азёры, што праносіліся міма, і з захапленнем паглядваў на веласіпед, які ляжаў на верхняй лаўцы. Аляксандр, адчуваючы ў сваёй руцэ цёплую далонь сына, бадай, толькі цяпер зразумеў, якая адказнасць лягла на яго.

Кватэра ў Дзяржынску Геру спадабалася. Гэта ўжо быў яго дом са сваімі, не казёнымі, лыжкай, кубкам, ложкам... Любімую цацку тут не паламае іншы хлопчык, і прыгожая кашуля вернецца пасля мыцця толькі да цябе.

Аляксандр баяўся, што Герка не зможа чытаць – ён не адчуваў галосных. Вучыліся з дапамогай спеваў – і навука паддалася.

А праз год бацька з сынам паехалі забраць да сябе пагасцяваць Сяргея. Праз тры месяцы расставаліся са слязамі. Сустракацца сталі кожнае лета. Але атрымліваць лісты з дзіцячага дома было цяжка. Наіўныя, з памылкамі – амаль кожны з іх крычаў: "Тата, забяры мяне адсюль!"

– Сяргей стаў мне сынам задоўга да афіцыйнага ўсынаўлення, – гаворыць Аляксандр Віктаравіч. – Калі забіраў Геру, я ўжо ведаў, што забяру і Сяргейку. Дзе адзін, там і два...

У Ніжагародскай вобласці Гера часта хварэў. Урачы параілі памяняць клімат. І тады Артамонаў вырашыў пераехаць у Беларусь. Зноў жа – і да Сяргея бліжэй. А дзеці павінны жыць у сябе на радзіме.

У 1993 годзе, памяняўшы кватэру, апынуўся ў Салігорску, пайшоў працаваць у школу. А хутка Аляксандр Віктаравіч усынавіў і Сяргея. Ён аказаўся прамой процілегласцю спакойнаму Герману. Карацей кажучы, сарвігалава.

– Толькі апране Сяргей чыстае, – успамінае бацька, – вяртаецца з вуліцы ўвесь брудны. І вучыўся спачатку горш, чым Гера: прыйшоў жа ў школу пасля некалькіх гадоў інтэрната. Табліцу множання нанава вучылі, усю праграму, пачынаючы з першага класа, штудзіравалі. Да музыкі прывучыў. Сам на барабане і на гармоніку граю. Герман музычную школу па класу баяна з адзнакай скончыў. Сяргей таксама на барабане граў, танцамі захапляўся. Тры гады ў школе дзі-джэем на дыскатэтках быў. Вось грошай назапашу – музычны цэнтр яму куплю. Цяпер Сяргей служыць у войску. Не думаў, што так буду сумаваць па ім. Бо мы з дзецьмі ніколі не расставаліся, заўсёды разам. Герман у Беларускі педагагічны універсітэт імя М.Танка паступіў. Часта ў Салігорск наведваецца. Школу, між іншым, з залатым медалём скончыў. Так што ўся ўвага сёння – Юрку.

Юрка ў сям'і самы малодшы. Таксама дзетдомаўскі.

Прыехаўшы ў Салігорск, Аляксандр Віктаравіч стараўся нікому не расказваць пра ўсынаўленне. Не хацеў вылучацца. Але ў школе пра гэта даведаліся. Хутка Артамонава выбралі членам праўлення Беларускага дзіцячага фонду. Намаганнямі Аляксандра Віктаравіча створаны цэнтр міласэрнасці, які аказвае пасільную дапамогу Салігорскаму дзіцячаму дому, ладзяцца канцэрты для малышоў.

Аднойчы затрымаўся ў медчасці дзіцячага дома. Зазваніў тэлефон. Італьянская сям'я, у якой адпачываў адзін з выхаванцаў, хацеў пагаварыць з хлопчыкам. Прывялі шасцігадовага Юру. Назіраючы за ім у час размовы, Аляксандр звярнуў увагу на вочы – у іх было столькі суму! Выхо-дзячы з кабінета, не ўтрымаўся – пагладзіў малога па галаве.

Хутка Артамонаў даведаўся, што Юравых бацькоў пазбавілі бацькоўскіх правоў, калі яму не споўнілася яшчэ і двух гадоў. Хлапчанё запала ў душу – не мог Аляксандр забыць тых вачэй. Пагаварыў са сваімі сынамі, і на сямейнай нарадзе вырашылі: дзе траім месца хапае, там і чацвёртаму не будзе цесна.

– А яшчэ ёсць такая народная мудрасць, – усміхаецца Аляксандр Віктаравіч, – адзін сын – не сын, два сыны – паўсына, тры сыны – сын...

Юра ў той час трапіў у бальніцу. Наведвалі яго ўсёй сям'ёй. І кожны раз малы прасіў хутчэй яго забраць.

Калі Артамонаў прыйшоў да дырэктара дзіцячага дома Надзеі Ракавай, тая толькі рукамі развяла, але калі зразумела, што пераконваць бескарысна, прапанавала: "Можа дзяўчынку возьмеце? Гаспадыняй у сям'і будзе, а то Юрка такі неўтаймоўны".

– Чаму б і не? – пацікавіўся я ў Аляксандра Віктаравіча.

– Будучыя мамы і таты прыходзяць у дзіцячыя дамы, выбіраюць, як правіла, чыстых, прыгожых, здаровых малышоў, – адказаў ён. – Але я сваіх дзяцей не выбіраў – іх вызначыў лёс.

– Ці ведаюць вашы сыны, што недзе жывуць іх сапраўдныя бацькі?

– Я ніколі не ўтойваў ад іх праўды. Хлапчукі мне неяк сказалі: "Нам дастаткова таго, што ў нас ёсць ты, і нікога іншага нам не трэба".

– Не ўзнікала ў вас думка, што для ідэальнай сям'і не хапае яшчэ мамы?

– Калі людзі даведваліся пра такую незвычайную сям'ю (падобнай, наколькі я ведаю, няма не толькі ў Беларусі, але і ні ў адной з краін СНД), дасылалі нам лісты. Жаночыя часта былі падобныя да анкет: колькі метраў кватэра, ці ёсць машына, дача, якая зарплата... На жаль, нічым пахваліцца не мог. А калі сур'ёзна, то гэта павінна быць мужная жанчына. Не кожная выйдзе за мужыка з двума дзецьмі, не кажучы ўжо пра трох. Акрамя таго, маму яшчэ павінны прыняць дзеці...

– Няўжо ніколі нікога не кахалі?

– Кахаў, але лёс развёў нас у розныя бакі дваццаць гадоў таму назад.

Хлапчукі ганарацца сваім бацькам і стараюцца ва ўсім быць да яго падобнымі. Яны лепш за іншых ведаюць цану ўзнагародзе "За працоўныя заслугі", уручанай яму ў 1998 годзе Прэзідэнтам Беларусі. Ім даспадобы бацькоўская неабыякавасць да чужой бяды. Колькі добрых спраў зрабіў Аляксандр Віктаравіч, працуючы ў Беларускім дзіцячым фондзе. І колькі яшчэ зробіць! Сябруе Артамонаў з сям'ёй таленавітай трынаццацігадовай школьніцы Сашы Гушчы, якая пасля цяжкай траўмы перанесла ўжо больш за два дзесяткі аперацый на твары, страціла рукі, але малюе цудоўныя карціны.

Адгукаючыся на чужую бяду, Аляксандр Артамонаў ніколі не прасіў за сябе. Нават выдзеленая яго сям'і гарвыканкамам чатырохпакаёвая кватэра замест ранейшай двухпакаёвай – шмат у чым заслуга старшыні Беларускага дзіцячага фонду Уладзіміра Ліпскага, намесніка кіраўніка Мінскага аблвыканкама Сяргея Паўлюкевіча, многіх іншых неабыякавых людзей. Рамонт рабілі самі. Юрка тады ўдзельнічаў у ім нароўні з дарослымі, адмовіўшыся ад паездкі ў Італію. Даведаўшыся, што яго могуць пазбавіць задавальнення даводзіць да ладу кватэру, такі бунт узняў. Нечакана атрымалі ў падарунак кухонны гарнітур ад сталічнай фірмы "Алекор".

А мяккай канапы і фатэляў у навасёлаў дагэтуль няма. Выручае дыван, падораны Прэзідэнтам краіны. На ім і ўладкоўваецца ўся сям'я ў гасцёўні. Зрэшты, дыван гэты, можна сказаць, паявіўся нечакана. У час уручэння дзяржаўнай узнагароды Аляксандр Лукашэнка паабяцаў Артамонаву прыехаць у госці (жылі яны тады на старой кватэры). Больш за ўсіх прыезду кіраўніка дзяржавы ўзрадаваліся, бадай, жыльцы дома – такога марафету яны не бачылі даўно. Але Аляксандр Рыгоравіч праслаў у Салігорск свайго прадстаўніка, які заадно запрасіў Юрку на прэзідэнцкую ёлку. Пасля гэтага гарадская адміністрацыя падарыла сям'і Артамонавых тэлевізар і відэамагнітафон.

Я пацікавіўся ў Аляксандра Віктаравіча, як ім удаецца выжыць на яго настаўніцкую зарплату, якая з усімі надбаўкамі не перавышае 150 тысяч рублёў? Ну, дзяржава выдзяляе тысяч шэсцьдзесят на Юрку. (Да паўналецця старэйшых сыноў недзе каля васьмі тысяч атрымліваў яшчэ кожны з іх.)

– Вядома, шыкаваць не даводзіцца, – адказаў Аляксандр Артамонаў. – Сямейны бюджэт размяркоўваем усе разам. Але ці ж у грашах шчасце?

Для Артамонава яно – у дзецях. Летась зрабілі, нарэшце, дзве аперацыі на вачах Юрку. Цяпер – прыгажун-хлопец.

...Вечарамі Аляксандр Віктаравіч разам з Юркам гартае фотаальбом. Няўжо гэта яго Сяргейка спявае прыпеўкі на канцэрце, арганізаваным Віцебскім дзіцячым домам у гонар расставання з Герам? А вось і Гера, абклаўшыся цацкамі, сядзіць пасярэдзіне пакоя. Водзіць пальцам па кнізе Юрка, спасцігаючы свае першыя склады. Дастае бацька з сямейнага архіва і старыя, са смешнымі чалавечкамі, лісты Геры, наіўныя, з памылкамі – Сяргея. Зноў і зноў перачытвае яго сённяшнія пасланні з арміі: "Дарагі татачка! Як добра, што ты ў нас ёсць! Я ведаю, што пасля арміі ў мяне ёсць бацькоўскі дом, ёсць прыстанак..."

Не-не, ды і ўспомніць Аляксандр сваіх бацькоў, якіх яму не хапала ўсё жыццё.

– Паверце, дагэтуль хочацца каго-небудзь назваць татам і мамай, – прызнаўся ён мне.

На выхадныя прыязджаў Герка. Ужо сабраўшыся ў Мінск, пагладзіў па галаве Юрку, абняў бацьку і накіраваўся да дзвярэй. Праводзячы амаль двухметровага сына, Аляксандр міжволі згадаў худзенькага хлапчука з цацкай у руках і паклікаў яго. Гера азірнуўся:

– Што, тата?

– Які ж ты ў мяне стаў вялікі, сынок...

**Аляксандр ГРАЧОЎ.**

***P.S.*** *У Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана амаль 31 тысяча дзяцей-сірот. Толькі за апошнія два гады ў краіне адкрыта 60 дзіцячых прытулкаў. На 11 тысяч павялічылася колькасць дзяцей-сірот. 90 працэнтаў з іх складаюць сацыяльныя сіроты – дзеці, бацькі якіх пазбаўлены бацькоўскіх правоў або знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі. 10 працэнтаў – гэта круглыя сіроты, бацькі якіх памерлі.*

Семінары

# Дзеці жадаюць развіцця і падтрымкі, дарослыя – эканоміі бюджэту

*Перабіраючы дзіцячыя ўспаміны, разумееш, як многа ўсяго было: паходы (з амаль бяссоннымі начамі з частымі ўскокваннямі – ці не праспала? – напярэдадні); піянерскія кастры; трэніроўкі ў спартыўнай школе (я і па сённяшні лічу свайго тагачаснага трэнера Дзмітрыя Іванавіча самым добрым чалавекам на свеце). ...А як мы скакалі ад нястрымнага захаплення і аказаліся абсалютна нездольнымі выказаць хоць штосьці словамі – адны выклічнікі! – калі даведаліся, што наш хор заняў першае месца на фестывалі!*

*Думаю, для большасці людзей самыя яркія ўражанні дзяцінства звязаны не са школьнымі ўрокамі, на якіх звычайна няма месца радасці і задавальненню (толькі імператыўнае "павінен"), а з наведваннем розных гурткоў, секцый, клубаў – усяго таго, што складае сектар пазашкольнай педагогікі. Ці будзе куточак для цёплых, настальгічных успамінаў пра свайго трэнера альбо першую асабістую перамогу ў душах дзяцей, якія падрастаюць зараз? Знак пытання пастаўлены таму, што пазашкольныя ўстановы сёння перажываюць не самыя лёгкія часы. Эканамічную сітуацыю ў краіне зараз цяжка назваць спрыяльнай. Гэта так. Але дзеці не могуць адкласці сваё дзяцінства да лепшых часоў. Другога дзяцінства ў іх не будзе. Аб гэтым ішла размова на рэспубліканскім семінары-практыкуме пад назвай* ***"Сацыяльная і выхаваўчая работа ў сістэме ўстаноў пазашкольнай адукацыі і выхавання Магілёўскай вобласці"****, які быў арганізаваны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і Упраўленнем адукацыі Магілёўскага аблвыканкама.*

* * *

У школе чалавек засвойвае, па меры сваіх здольнасцей, увесь вопыт чалавецтва, які тое назапасіла да яго. Цэлых дванаццаць гадоў педагогі спрабуюць укласці ў дзіцячыя галовы шматвяковую мудрасць. Менавіта для гэтага сустракаюцца настаўнік і вучань. ...Мы сёння гаворым, што школа павінна больш займацца выхаваннем дзяцей. Неяк я прачытала, што Іспанія, па падліках гісторыкаў і антраполагаў, канчаткова зможа пераадолець згубныя наступствы сярэдневяковай інквізіцыі – знішчаны генафонд нацыі – яшчэ праз стагоддзе, г.зн. недзе ў XXII. Як жа доўга і ўпарта трэба будзе нам аднаўляць тое, што было зруйнавана ў XX стагоддзі?! Сучасныя падлеткі наогул нарадзіліся ў духоўным сэнсе нейкімі пакінутымі. Пераацэнка каштоўнасцей у грамадстве, большая свабода слова і іншыя заваёвы дэмакратыі, як мы пераканаліся, могуць мець і адваротны бок, калі нашы дзеці, не адрываючы вачэй, глядзяць, як у тэлевізары ў чарговым "мульціку" чарговы герой выбівае мазгі свайму ворагу, а падлеткі ведаюць амаль усё "пра гэта". Але тое, што ажыўляе прадметы і надае ім асаблівыя, нябачныя для іншых, вартасць і зачараванне ў вачах людзей, якія любяць адзін аднаго, можа аказацца для іх недасягальным. Так, школа павінна дапамагаць сям'і ў выхаванні. Але яшчэ большую падтрымку ў гэтым – і асабліва ў справе сацыялізацыі дзяцей і моладзі – могуць (і павінны) аказаць пазашкольныя ўстановы, тым больш улічваючы той факт, што абсалютная большасць дзяцей школу не вельмі любяць. Затое ў Цэнтр творчасці альбо ў спартыўную секцыю дзіця прыходзіць *само*. Яно *само* выбірае гурток і дарослага чалавека, у якога хоча чаму-небудзь навучыцца. І калі гэты дарослы не зможа адчуць і падтрымаць свайго выхаванца, той проста перастане да яго прыходзіць. Навучанне ў гуртках розных напрамкаў насамрэч – толькі нагода для пранікнення ў складаны свет чалавечых стасункаў, дзе на першым месцы стаяць дапамога, развіццё і падтрымка. Праўда тое, што дзеці прыходзяць у пазашкольныя ўстановы не для таго, каб навучыцца малюнку, вышыванню альбо харэаграфіі, а перш за ўсё ў пошуках менавіта міжасобасных стасункаў. У кожным узросце жыццё ставіць перад чалавекам свае задачы. І найбольш важным для дзіцяці можа аказацца ўменне разумець свае пачуцці і арыентавацца ў матывах учынкаў іншых людзей, уменне настойваць на сваім, альбо, наадварот, саступаць, адрозніваць галоўнае ад другараднага, планаваць і дасягаць задуманага, уменне перажыць гора, выказаць сімпатыю, адэкватна адрэагаваць на агрэсію... Узаема-дзейнічаючы, мы пазнаем сябе і свет, адлюстраваны ў нас. І ніякая кніга не раскажа нам пра гэта лепш...

* * *

Магчыма, таму ў праекце Закона аб адукацыі (раздзел 11), які зараз знаходзіцца на зацвярджэнні ў Прэзідэнта, установы пазашкольнай адукацыі і выхавання (так яны называюцца цяпер) названы як установы пазашкольнага выхавання і навучання. Ужо адно гэта запатрабуе перапрацоўкі ўсіх нарматыўных дакументаў і, адпаведна, самай пільнай увагі да арганізацыі выхавання, якое становіцца асноўным элементам у маладзёжнай палітыцы дзяржавы. Як адзначыла ў сваім выступленні на семінары намеснік Міністра адукацыі Таццяна Мікалаеўна Кавалёва, сёння ўсе пазашкольныя ўстановы знаходзяцца ў сітуацыі павышанай адказнасці: кіраўнік дзяржавы будзе асабіста курыраваць і трымаць на кантролі пытанні выхавання юнага пакалення. Разам з тым, на думку Т.М.Кавалёвай, пільная ўвага Прэзідэнта да работы пазашкольных устаноў з'яўляецца спрыяльнай для таго, каб вырашаць праблемы галіны.

Між тым, іх назбіралася нямала. Самыя асноўныя звязаны з тым, што сёння краіна знаходзіцца ў сітуацыі, якая патрабуе эканоміі бюджэтных сродкаў. Менавіта гэтым абумоўлена будучае дзесяціпрацэнтнае скарачэнне штатаў пазашкольных устаноў. Як зрабіць гэта максімальна безбалюча, не скарачаючы колькасці пазашкольных устаноў і не губляючы таго кантынгенту дзяцей, якія маюць патрэбу ў іх наведванні? (Між іншым, па даных сацыялагічных апытанняў, патрэба ў пазашкольным навучанні і выхаванні – вялікая і да канца яшчэ не задаволеная). Як адзін са шляхоў выйсця з гэтага становішча прапанавана развіццё сферы платных адукацыйных паслуг.

Так, відаць, у бліжэйшы час з бясплатнасцю нам прыйдзецца цяжка – і "пазашкольнікам" трэба будзе распрацаваць формулу, каб і частковую платнасць увесці (інакш пры ўсё меншым фінансаванні галіны яе цяжка будзе выцягнуць), і даступнасць забяспечыць, бо пакінуць за бортам дзяцей з тых сем'яў, якія заплаціць не змогуць, а таксама дзяцей-сірот – таксама недапушчальна.

* * *

Між іншым, Цэнтр пазашкольнай работы Магілёўскай вобласці, на базе якога праводзіўся семінар, ужо колькі гадоў назад знайшоў прымальныя формы вырашэння праблемы эканоміі бюджэтных сродкаў. Калектыў гэтага Цэнтра яшчэ пры адсутнасці неабходнай нарматыўнай базы з-за сённяшняй эканамічнай сітуацыі першым пайшоў па шляху развіцця платных паслуг, у тым ліку па шляху стварэння платных гурткоў, у цэлым усё ж для большасці дзяцей застаючыся бясплатнай установай, як гэтага патрабуе і новы варыянт Закона аб адукацыі. А, па-другое, сам Цэнтр узнік у выніку аб'яднання некалькіх устаноў – Абласнога Палаца дзіцячай творчасці, Абласнога Цэнтра тэхнічнай творчасці і Абласнога Цэнтра экалагічнага выхавання. Такое аб'яднанне некалькіх устаноў у адну – таксама рэальны шлях да эканоміі дзяржаўных сродкаў. Ён мае як свае плюсы, так і, канешне, мінусы – гэтаму пытанню было прысвечана шмат дыскусій. З думкамі на гэты конт удзельнікаў семінара, а таксама з некаторымі поглядамі на праблемы галіны мы даём вам магчымасць пазнаёміцца ніжэй.

**Святлана СУБОЦІНА.**



Таццяна Цыбуліна пяты год вучыцца на аддзяленні выяўленчага мастацтва Пружанскай дзіцячай школы мастацтваў імя Р.Шырмы. Больш за ўсё яна любіць ствараць на сваіх акварэлях пейзажы і нацюрморты. З лепшымі работамі дзяўчына ўдзельнічала ў рэспубліканскіх конкурсах і пленэрах.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

## Гавораць удзельнікі семінара

**Т.М.КАВАЛЁВА,**
**намеснік Міністра адукацыі, кандыдат псіхалагічных навук:**

Калі яшчэ некалькі гадоў назад мы казалі, што нам няпроста арганізаваць выхаваўчую работу, таму што адсутнічаюць асноватворныя дзяржаўныя дакументы, няма дзяржаўнай ідэалогіі, канцэпцыі, якая б ахоплівала асноўныя накірункі работы і вызначала грамадскія каштоўнасці, то сёння можна сцвярджаць, што ўсё гэта ўжо сфарміравана. Мы маем два асноўныя дакументы – Канцэпцыю і Праграму выхавання. Асновай нашых намаганняў павінна стаць фарміраванне базавых каштоўнасцей. Гэта, перш за ўсё, здароўе, адукацыя, патрыятызм, грамадзянскасць. Трэба прызнаць, што мы страцілі пэўныя станоўчыя рысы савецкай школы, якая найперш была працоўнай. Сёння з нашых устаноў адукацыі прапала элементарнае самаабслугоўванне, не гаворачы ўжо аб вытворчай працы, – нам трэба аднавіць працоўнае выхаванне.

Установы адукацыі, у тым ліку і ўстановы пазашкольнага выхавання і навучання, маюць адпаведнае Палажэнне, дзе сфарміраваны правілы паводзін і выхаванцаў, і тых, хто выхоўвае і навучае. На аснове гэтых правіл кожная ўстанова фарміруе і свае, якія складаюць яе этыкет. Трэба дакладна яго прытрымлівацца. Асаблівая ўвага павінна аддавацца барацьбе з курэннем, якому не месца ў адукацыйных установах.

Можа, празаічнасць вышэйназваных праблем кагосьці крыху здзівіць, бо мы, работнікі адукацыі, часта імкнемся да складаных канцэпцый, праграм і г.д. Але ўспомнім словы англійскага гісторыка і філосафа Томаса Карлейля, які сказаў: "Наша задача не ў тым, каб накіраваць свой погляд і ўвагу на нешта, што знаходзіцца ў туманнай далечыні, а ў тым, каб рабіць справы, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад нас".

На сустрэчы з Прэзідэнтам падчас майго зацвярджэння на пасаду намесніка Міністра адукацыі ішла зацікаўленая гаворка аб праблемах галіны, у тым ліку і аб тым, што ў школе хутка павінен быць уведзены пяцідзённы навучальны тыдзень. Субота для ўсіх школьнікаў павінна стаць фізкультурна-аздараўленчым днём. Адной школе будзе цяжка забяспечыць гэта, і руку дапамогі ёй павінны будуць працягнуць пазашкольныя ўстановы, якія за апошнія гады напрацавалі вельмі значны вопыт у гэтым накірунку.

**В.С.БАГДАНАЎ,**
**начальнік упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама:**

– Лічу, што галоўнае патрабаванне да ўсіх работнікаў пазашкольных устаноў – прыкласці ўсе намаганні, каб стварыць у сваіх сценах атмасферу творчасці і захопленасці. Дух, які пануе ў сценах установы – гэта самая галоўная, самая адметная і вызначальная яе рыса. Мы гаворым пра ліцэйскі дух, якім адметныя лепшыя ліцэі, але гэта – прэрагатыва не толькі такіх навучальных устаноў. Інакш праз некаторы час, калі эканамічная сітуацыя не выправіцца, можа паўстаць пытанне: а ці патрэбны пазашкольныя ўстановы наогул?

**С.С.МІТРАХОВІЧ,**
**дырэктар Рэспубліканскага Цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму і экскурсій:**

– Я і мае калегі прытрымліваемся той пазіцыі, што, калі няма адпаведных умоў, трэба яшчэ падумаць, ці варта невялікім установам аб'ядноўвацца ў буйныя цэнтры. Мы гэта ў сваёй гісторыі ўжо праходзілі: калі аб'ядноўвалі ўсіх у калгас, хтосьці прыводзіў туды карову, а хтосьці прыходзіў з пустымі кішэнямі. І ўсе траплялі ў аднолькавыя ўмовы. Гэта вельмі зручна, калі дырэктар установы, якая ўваходзіць у склад аб'яднання, хаваецца за спіну дырэктара ўсяго аб'яднання. Але гэта ні ў якой ступені не стымулюе гаспадарчую дзейнасць. Якраз-такі невялікая ўстанова мае больш шырокія магчымасці для паспяховай гаспадарчай дзейнасці. Акрамя таго, у невялікіх пазашкольных установах педагогі звычайна працуюць не толькі з тым кантынгентам дзяцей, якія наведваюць іх гурткі, а сфера іх дзейнасці распаўсюджваецца і на ўсіх школьнікаў таго адміністрацыйнага раёна, на тэрыторыі якога яны знаходзяцца.

**А.М.ТАРАНДА,**
**вядучы арганізатар аддзела сацыяльнай і выхаваўчай работы упраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама:**

– Лічу аб'яднанне пазашкольных устаноў небяспечнай з'явай. У нас закрываецца абласны Цэнтр творчасці ў г.Маладзечна. На яго базе плануецца стварыць вучэбна-метадычны кабінет. Аргументацыя такая: за кошт бюджэту вобласці цэнтр працуе больш чым з тысячай дзяцей горада. Зараз назіраецца тэндэнцыя ставіць пад сумненне неабходнасць абласных цэнтраў наогул. Няўжо яны на самай справе ўжо не патрэбны? Я вельмі спадзяюся, што Міністэрства адукацыі дапаможа нам захаваць Цэнтр творчасці ў Маладзечна.

І яшчэ адна праблема, якая мяне хвалюе – гэта пытанне, якім чынам творчыя калектывы могуць зарабляць грошы па ліцэнзіі. Мы неаднаразова сутыкаліся з тым, што калі нашы творчыя калектывы збіраюць на сваіх выступленнях грошы, то потым перад намі паўстае пытанне, як нам даць справаздачу падатковай інспекцыі. Справа ў тым, што падатковая інспекцыя патрабуе ліцэнзію. Міністэрства культуры ліцэнзію не дае, таму што мы не маем да яго ніякага дачынення. Міністэрства адукацыі таксама не дае, таму што не мае на гэта права. Атрымліваецца замкнёнае кола. Хутка пачнецца летняя кампанія, і для пастаянных творчых калектываў (тэатральных, харэаграфічных і інш.) магла б з'явіцца магчымасць зарабіць нейкія сродкі – выступаючы ў летніках, санаторыях, на турбазах. Але з-за непрадуманасці пытанняў ліцэнзіравання мы не можам такой магчымасцю скарыстацца.

**А.Д.ДЗМІТРЫЕВА,**
**дырэктар Нацыянальнага Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі:**

– Як адкрытая сацыяльна-педагагічная сістэма мы заявіліся нядаўна. Адна з асаблівасцей такой сістэмы – супрацоўніцтва з трэцім сектарам, г.зн. з грамадскімі арганізацыямі. Мы, напрыклад, з дапамогай Фонду Сораса, TASIS, міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Надзея-экспрэс" змаглі выйсці на цікавыя сацыяльна-педагагічныя праекты. Дзякуючы супрацоўніцтву з прадстаўніцтвам Дзіцячага Фонду ААН ЮНІСЕФ наш Цэнтр творчасці атрымаў грант на развіццё Інфармацыйнага Цэнтра па абароне правоў дзяцей і моладзі (г.зн. недзе 15 тысяч долараў у год мы маем на пазабюджэтным рахунку). Дзякуючы гэтаму гранту мы змаглі выдаваць часопіс "Защита и справедливость". Гэтае прававое поле (якое тычыцца Закона аб правах дзіцяці) у нашай рэспубліцы пакуль што tabula rasa, таму з'яўленне такога часопіса і наогул нашага Інфармацыйнага Цэнтра лічу значным дасягненнем, якое змагло адбыцца менавіта дзякуючы супрацоўніцтву з трэцім сектарам.

**Л.М.МІНАЎ,**
**дырэктар Цэнтра пазашкольнай работы упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама:**

– Сёння пазашкольныя ўстановы вымушаны зарабляць грошы, і тут у якойсьці ступені можа дапамагчы граматная асветніцка-выхаваўчая работа з бацькамі. Мы гаворым, што асяроддзе выхоўвае дзіця. І калі бацькі пачынаюць разумець, што іх сын ці дачка нешта недаатрымаюць, калі не дапамагчы, напрыклад, Цэнтру творчасці вырашыць пэўныя матэрыяльныя праблемы, то яны хутчэй пойдуць насустрач просьбам калектыву, і ў гэтым выпадку праблема можа вырашыцца даволі хутка. Мы, напрыклад, прыйшлі да такой ідэі як акцыяніраванне: Цэнтр бярэ ў бацькоў грошы ў пазыку – натуральна, улічваючы магчымасці кожнай сям'і. Прывяду просты падлік: дапусцім, у Цэнтры займаецца 5 тысяч навучэнцаў. Калі мы зоймем у кожнага па 20 тысяч рублёў, у нашых руках акажацца 100 млн. рублёў. Мы кладзем іх на дэпазітны рахунак, з якога кожны месяц Цэнтру налічваюцца пэўныя працэнты. У канцы года Цэнтр вяртае бацькам грошы і дае справаздачу, як ён выкарыстаў дывідэнды, якія меў кожны месяц.

Мы не адразу прыйшлі да такога рашэння: прыйшлося доўга ўгаворваць педагогаў, ламаць пэўныя стэрэатыпы. Але цяпер маем адзінае згуртаванне дзяцей, педагогаў, бацькоў – дзеля гэтага варта было працаваць. Хаця універсальнага рэцэпта тут няма. У маленькіх цэнтрах, магчыма, трэба выкарыстоўваць іншыя формы работы...

**Т.У.ЛЯВІЦКАЯ,**
**начальнік аддзела выхаваўчых сістэм і тэхналогій Магілёўскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі:**

– Сёння нерэальна гаварыць аб пераўтварэннях у сістэме адукацыі, абыходзячы ўвагай фігуру метадыста. Менавіта ён з'яўляецца тым ланцужком, што звязвае навуку і педагагічную практыку, даносячы да педагогаў перадавыя распрацоўкі і новыя тэхналогіі. І на яго мы сёння ўскладаем вялікія надзеі, асабліва на раённым узроўні. Але не магу не адзначыць, што сярод метадыстаў зараз няшмат сапраўдных прафесіяналаў. Прыходзіць многа такіх, каму трэба хоць куды працаўладкавацца. А потым яны, калі знойдуць лепшае месца, хутка сыходзяць. Так, ёсць у нас і добрыя метадысты, але іх вельмі мала. Каб высокакваліфікаваны педагог прыйшоў працаваць на гэтую пасаду, трэба падняць узровень аплаты – іншым шляхам кадравае пытанне, мабыць, не вырашым.

**І.А.ДАРАФЕЕВА,**
**намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі па выхаваўчай рабоце і справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама:**

– Мяне крыху здзіўляе трывога калег з нагоды аб'яднання невялікіх цэнтраў у больш буйныя ўстановы. Думаю, некаторыя кіраўнікі разглядаюць гэтую праблему праз сваю прызму бачання. Хочам мы гэтага альбо не, але калі пытанне аб 10-працэнтным скарачэнні штатаў паўстала, то яно вырашыцца. Гэта сённяшнія рэаліі. Самае страшнае ў такой сітуацыі – калі мы дапусцім скарачэнне колькасці пазашкольных устаноў, скарачэнне педагогаў і сацыяльна-псіхалагічных службаў. Калі ж скарачэнне адбудзецца за кошт граматнага аб'яднання кіраўніцкага апарату, то, думаю, тут нават будуць свае плюсы. Будзе аб'яднаная бухгалтэрыя, адзіны метадычны цэнтр, які больш мабільна і, напэўна, тэхнічна граматна зможа забяспечыць работу аб'яднання... А маленькім цэнтрам, якія не маюць адпаведнай матэрыяльнай базы, выжыць сёння на самай справе будзе вельмі няпроста.

**М.К.ТАРАСЮК,**
**начальнік аддзела выхаваўчай работы ўпраўлення адукацыі Брэсцкага аблвыканкама:**

– Вельмі шмат пытанняў узнікае ў сувязі з платнымі паслугамі. Так, пазашкольныя ўстановы павінны зарабляць грошы. Але ж дзе нарматыўна-прававая база, якая б рэгулявала гэтыя пытанні? Яе няма, і ўсе нашы добрыя намеры разбіваюцца, калі прыходзяць з праверкай фінансавыя органы. Тут ужо забываешся на ўсё астатняе, бо за фінансавай дзейнасцю, не падмацаванай нарматыўнай базай, стаяць не толькі сур'ёзныя штрафы, але і крымінальнае пакаранне.

**У.У.МАЛАШЭВІЧ,**
**галоўны інспектар галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь:**

Пытанне аб прававой забяспечанасці аказання платных паслуг дзяржаўнымі ўстановамі адукацыі – не такое простае, як можа падацца на першы погляд. Ёсць Загад Міністра адукацыі №597 ад 18 верасня 1999 года, які з'яўляецца дакументам доўгатэрміновага дзеяння і ў якім сказана, што ў нашай краіне навучанне дзяцей з'яўляецца бясплатным. Ёсць Закон аб адукацыі, дзе дакладна гаворыцца аб тым жа. Новы Закон аб адукацыі, які зараз знаходзіцца на зацвярджэнні, дэкларуе зноў жа бясплатнасць навучання. Зразумела, дадатковыя платныя адукацыйныя паслугі на сённяшні дзень і ў сённяшняй сітуацыі неабходныя. Але з-за ўсіх гэтых супярэчнасцей міністэрства зараз знаходзіцца ў даволі-такі складаным становішчы.

**Падрыхтавала Святлана СУБОЦІНА.**

Інтэрв'ю з нагоды

## Я-суб'ект плюс ты-суб'ект...

***Самае галоўнае, на чым будуецца ўся педагагічная дзейнасць, падмурак яе - стаўленне педагога да дзіцяці. Кім яно з'яўляецца ў вачах дарослага: маленькай істотай, якую трэба нафаршыраваць інфармацыяй ці раўнапраўным суб'ектам, пазіцыю якога трэба прымаць і паважаць?***

"Канешне, дзіця – гэта суб'ект! – падумае кожны, прачытаўшы пачатак гэтага артыкула – што за пытанне?!" Так, мы ўсе валодаем пэўнымі ведамі па гуманістычнай псіхалогіі і педагогіцы, але .... Калі справа даходзіць да практыкі, нашы веды чамусьці не спрацоўваюць. Нечага не хапае. І – ведаеце чаго? Напэўна, разумець, што перад намі суб'ект – мала, трэба яшчэ ўмець адносіцца да дзіцяці як да раўнапраўнага партнёра. Аб гэтым мы гутарым з доктарам педагагічных навук, дэканам факультэта павышэння кваліфікацыі спецыялістаў адукацыі Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі педагагічных кадраў БДПУ імя М.Танка **Сяргеем Сямёнавічам КАШЛЕВЫМ.**

**- Сяргей Сямёнавіч, я нядаўна вярнулася з Магілёва - педагогі тамтэйшага Цэнтра пазашкольнай работы і яго дырэктар Л.М.Мінаў проста ў захапленні ад асобасна-арыентаванага падыходу, які яны прымяняюць у дачыненні да сваіх выхаванцаў і якому, дарэчы, навучылі іх Вы...**

– З Леанідам Мікалаевічам Мінавым я пазнаёміўся на адным з рэспубліканскіх семінараў у 1998 годзе. Яго зацікавіў мой расказ аб тым, як можна трансфарміраваць традыцыйны педагагічны працэс у асобасна-арыентаваны, і ён запрасіў мяне да супрацоўніцтва. Я прыехаў, правёў некалькі семінараў у інтэрактыўным рэжыме... Адразу ж заўважыў, што сустрэлі мяне творчыя людзі, якія хочуць нешта памяняць у сваёй дзейнасці, прычым не чакаюць зменаў ад кагосьці, а самі гатовы нешта рабіць дзеля гэтага. Цікава, што дырэктар Цэнтра аказаўся не толькі арганізатарам семінараў, але стаў адным з самых актыўных іх удзельнікаў, гэтаксама як усе яго намеснікі і вядучыя спецыялісты падраздзяленняў. У рэшце рэшт гэта вылілася ў трохгадовы эксперымент, які мы назвалі "Стратэгія навукова-метадычнай работы з педагогамі па арганізацыі асобасна-арыентаванага педагагічнага працэсу ў пазашкольнай установе".

**- У чым сутнасць асобасна-арыентаванага падыходу?**

– Сёння ў большасці навучальных устаноў можна назіраць традыцыйны педагагічны працэс з яго асноўнымі атрыбутамі: суб'ект (педагог) – актыўны транслятар ведаў, і аб'ект (вучань) – які знаходзіцца ў падначаленым становішчы і абавязаны кіравацца тым, чаго патрабуе ад яго настаўнік. На першы план ставяцца веды, а не чалавек і яго развіццё – але гэта не вельмі эфектыўны падыход. У асобасна-арыентаваным педагагічным працэсе асноўным атрыбутам з'яўляюцца міжсуб'ектныя адносіны. І педагог, і дзіця – суб'екты дзейнасці, раўнапраўныя партнёры, ну, а далей для характарыстыкі іх сумеснай дзейнасці можна ўжыць шмат слоў з прыстаўкай са- (су-): сатворчасць, садружнасць, супрацоўніцтва... Пры такім падыходзе галоўнымі з'яўляюцца дзейнасць сама па сабе, стасункі, дыялог, рэфлексія, магчымасць самарэалізацыі. І толькі потым ідуць веды, уменні, навыкі. Гэта стварае аптымальныя ўмовы для развіцця індывідуальнасці кожнага вучня.

**- Але індывідуальнасць - гэта заўсёды рызыка. Часам ствараецца ўражанне, што грамадству яна не вельмі патрэбна: гэта свая пазіцыя, якая часта выліваецца ў нонканфармізм...**

– Так, чалавеку з добра развітай індывідуальнасцю трэба ўсведамляць, што яму заўсёды прыйдзецца яе адстойваць. Заўсёды знойдзецца мноства людзей, якія будуць асуджаць погляды такога чалавека, выказваць сваё незадавальненне ім, процістаяць яму. Такі чалавек павінен быць моцным. Хаця сэнс жыцця, канешне ж, не ў барацьбе з іншымі. Калі чалавек цалкам і поўнасцю прысвеціць сябе барацьбе, гэта ў рэшце рэшт разбурыць яго...

**- Звернемся зноў да асобасна-арыентаванага падыходу. Што гэта такое, я ўжо ўяўляю. Але вось я прыйшла да дзяцей... Як паказаць сваю суб'ектнасць і пры гэтым не ўшчаміць яе ў вучню?**

– Трэба **настроіць сябе на палілог** (гэтая ідэя, дарэчы, найбольш спадабалася пазашкольнікам у Магілёве). З грэчаскай гэта перакладаецца, як вы памятаеце, – "шматгалоссе". Неабходна дапусціць, што кожны чалавек мае права на свой погляд, і любы погляд мае права на існаванне. Я прыходжу на ўрок альбо на пасяджэнне гуртка з устаноўкай: я не абвяшчаю ісціну ў апошняй інстанцыі – кожны вучань альбо гуртковец мае права выказацца. Ведаеце, такі падыход нібы адкрывае шлюзы ў іншых людзях. Яны пачынаюць гаварыць! І кожны ўдзельнік такога палілогу пакідае аўдыторыю са сваім – створаным асабіста ім і для сябе – сэнсам.

Важна таксама быць гатовым да дыялогу, які мае на ўвазе ўменне слухаць і чуць. Але самае галоўнае тут зноў жа – успрыняцце дзіцяці як асобы і стварэнне яму ўмоў для праяўлення сваёй індывідуальнасці.

**- Я падумала зараз аб тым, што для таго каб ладзіць суб'ектна-суб'ектныя адносіны з дзецьмі, педагог павінен быць чалавекам, які можа хутка адаптавацца да любой - нават самай нечаканай педагагічнай сітуацыі. Ён не мае права на комплексы...**

– Так. Дарэчы, гэтыя якасці можна развіваць. Я спрабаваў гэта зрабіць на семінарах у Магілёўскім Цэнтры пазашкольнай работы (і не толькі там). Заўважце – на семінарах, а не на лекцыях, бо асобасна-арыентаваны працэс – гэта арганізацыя дзейнасці, і чытанне лекцый супярэчыць яго прынцыпам. Пры гэтым выкарыстоўваліся інтэрактыўныя метады навучання, якія маюць мэтай пастаянны кантакт з удзельнікамі, выказванне кожным свайго погляду, свабодныя перамяшчэнні па аўдыторыі і вельмі актыўны ўдзел у занятках кожнага з прысутных. Самы просты прыклад – метад "тузін пытанняў". Удзельнікам прапануецца сістэма пытанняў па педагагічнай праблематыцы (у даным выпадку 12), і кожнаму неабходна адказаць на іх, але невербальным шляхам, г.зн. не выкарыстоўваючы пры гэтым слоў. Абавязковая ўмова: кожны дзейнічае індывідуальна – і ніякіх удакладняючых пытанняў. Педагогі вызначаюцца з адказамі і адначасова атрымліваюць у свой "залаты запас" цікавы метад, які яны, канешне, крыху адаптаваўшы, могуць выкарыстоўваць у пэўнай сітуацыі пры рабоце з дзецьмі, задаючы ім адпаведныя тэматыцы зняткаў пытанні. Такім чынам даюцца не толькі веды па канкрэтнай методыцы, але адразу ж выпрацоўваецца і ўменне прымяняць яе на практыцы.

**- Я ведаю, што нядаўна Вы абаранілі доктарскую дысертацыю, тэмай якой было развіццё суб'ектнасці педагогаў у працэсе прафесійнага навучання. Дык як жа рыхтаваць сучаснага настаўніка?**

– Ведаеце, неяк ад аднаго маскоўскага калегі я пачуў такое азначэнне: "Педагогіка – гэта навука аб выхаванні чужых дзяцей". Падтэкст тут ясны: "Я вам раскажу аб гэтым, але сам я гэтага рабіць не ўмею". Дык вось, каб нашы педагогі не толькі ведалі, як гэта рабіць, але і ўмелі, у педагагічных універсітэтах трэба не лекцыі чытаць, а арганізаваць са студэнтамі тую дзейнасць, якою яны потым павінны будуць займацца з дзецьмі. А менавіта: на занятках са студэнтамі дабівацца палілогу; імкнуцца да дыялагічнасці ў стасунках; арганізаваць *мыследеятельность* – г.зн. правакаваць не запамінанне, а мысліцельныя аперацыі, вучыць студэнтаў *смыслотворчеству* і рэфлексіі. І ўсё гэта рабіць аптымальна з дапамогай семінараў, якія складаюцца з пэўнага шэрагу актыўных дзеянняў...

**Гутарыла Святлана СУБОЦІНА.**

